Перасылка аплачана рычалтам

Цана асобнага нумару 10 гр.

# БЕЛАРУСЬ ПРАЦЫ

Орган Беларускае Нацыяналістычнае Сябрыны.

№ 1 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Баровая 7-а, 2 | ВІЛЬНЯ, 3-га ЛЮТАГА 1934 г. | Выходзіць непэрыёдычна | ГОД I

## СТВАРЫЦЬ АКТЫЎ ПРАЦЫ!

З выхадам у сьвет новае часопісі зазвычай у першую чаргу падаюцца да ведама грамадзянства ўсе тыя пабудкі і прычыны, якія выклікалі патрэбу выданьня гэтае часопісі. Разам з тым апавяшчаюцца і тыя нацыянальныя і грамадзкія ідэалы, пад знакам якіх новая часопісь павядзе сваю працу, вызначыць тыя ці іншыя шляхі дзеля асягненьня ўспомненых ідэалаў.

Не абмінаем гэты звычай і мы!

Ход гістарычных падзеяў сказаў нам жыць з народам польскім, у межах яго адрадзіўшайся дзяржавы. Свае адносіны да нас, беларусаў, народ польскі выказаў на старонках канстытуцыі свайго дзяржаўнага жыцьця, прызнаючы нас як самабытную нацыю, прызнаючы нас за роўнапраўных грамадзян Польскае Рэспублікі.

Старэйшае беларускае грамадзянства, стаўшае на чале беларускага вызваленчага руху, гэнага прызнаньня не дацаніла, не змагло таксама прыступіць і да позытыўнае адраджэнскае працы ў тых абставінах, якія склала гісторыя. Вынікам гэтага было тое, што з шляху буджэньня народнае сьведамасьці і актывізму, нашае грамадзянства папала ў псыхоз канспірацыі і вузкага партыйніцтва, само заганяючы працу легальную ў падзямельле. Замест праграмовае адбудовы і разбудовы беларускае культуры і кадраў радзімае інтэлігэнцыі, нашыя „павадыры" зьехалі на дэмагогічныя выкрыкі максымалізму, на гістэрычнае непрызнаваньне рэальнага жыцьця. Урэшце, нашыя „павадыры" папросту пахварэлі на пункце навязываньня „высокапалітычных" саюзаў і кантактаў, няпрытомна кідаючыся ад Варшавы да Масквы, ад Коўна да Львова, ад Бэрліна ізноў да Варшавы і гэтак навакол. Гэтая іх шалёная мітусяніна здэмаралізавала народныя масы, пакалечыла жыцьцё маладому пакаленьню, унясло ў гушчы народныя фэрмэнтацыю, з чаго ізноў скваплів скарысталі ворагі дзяржавы, а гэта ў свой чарод змусіла чыньнікі, пакліканыя да дагляду інтэрэсаў дзяржавы, завастрыць свае адносіны да кожнае беларускае працы, бачучы ў ёй антыдзяржаўныя пасяганьні сілаў замежных. Усё гэта спрычынілася таму, што на позытыўнай і легальнай працы над разбудовай культуры, кадраў інтэлігэнцыі і народнага актывізму, гэтых першых варункаў сапраўднае незалежнасьці, быў пастаўлены крыжык. Мала таго, значная частка нашых „павадыроў" сваім нягодным здагонам за грамадзкімі грашыма, апаганіла ня толькі сябе, але і беларускі вызваленчы рух. Усё гэта разам узятае ўспомнены рух зьвяло на бездарожжы, справу беларускую загнала ў „тупік". Гэнае трагэдыі і пазору нашыя паважаныя „павадыры" сяньня ўжо ня ў сіле больш прыкрываць, як і ня ў сіле запыніць усё тое, што ймкнецць жыцьцё беларускае ў прорву нябыцьця нацыі. Ратуючы свой гонар і сытуацыю, яны сяньня заняліся... паглыбляньнем і распрацоўкай дэмакратызмаў, соцыялізмаў, эсэраўшчыны, комунізму і г. д. Страх і няпэўнасьць заўтра дайшлі ў іх да таго, што на кожнае пасяганьне сілаў варожых да самабытнасьці беларускае нацыі, яны адказываюць... вэрсальскімі пратэстамі і ганебным маўчаньнем.

Вось у гэткіх абставінах і атмосфэры мы прыступаем да выдаваньня сваей часопісі.

Чаго-ж мы хочам?

Агульначалавечым ідэалам, за які змагаецца кожны народ на працягу ўсяе гісторыі чалавецтва і ў нашыя дні, ёсьць жаданьне асягнуць такія формы грамадзкага жыцьця, пры якіх кожны чалавек, кожная грамада і кляса людзей маглі-бы безперашкодна і здавальняюча заспакоіваць усе свае натуральныя і духовыя патрэбы. Імкнецца да такога заспакаеньня сваіх патрэбаў і народ беларускі. Лічыцца агульнапрынятым пэўнікам, што першым варункам безперашкоднага і здавальняючага заспакаеньня натуральных і духовых патрэбаў кожнага народу ёсьць яго незалежнасьць. Мы з гэтым цалком згаджаемся, лічачы аднак, што незалежнасьць народу гэта ня нейкая абстракцыя, але вынік чэснае, глыбокае і няўтомнае працы народных мазалёў і інтэлекту. І незалежнасьць Беларусі мусіць абаперціся і абапрэцца на векавечных зрубах беларускага творчага духа і загартаванай энэргіі. Словам, наш ідэал — Незалежнасьць Беларусі. Аднак Беларусь— не Бацькаўшчына ўжо сяньня гадаванага гультайства, апэтытаў на міністэрскія партфэлі, дэмагогіі, ашуканства, грызьні і інтрыганства, але—Беларусь мазоліста-творчае і нясупыннае працы ўсяго народу. Нашым ідэалам, урэшце, знайходзіць чэсна, згодна сумленьню, усё тое, што нас лучыць з братнімі народамі, але ня тое, што разьбівае адзіную славянскую сям'ю.

З вышэйсказанага лёгічна выплывае, што нашым шляхам будзе шлях позытыўнае працы над разбудовай беларускае культуры, кадраў чэсных працаўнікоў нацыі, народнае сьведамасьці і актывізму. Пойдзем шляхам рашучай барацьбы з гістэрычным і безпраграмовым максымалізмам, супроць дэмаралізацыі і марнаваньня народнай энэргіі, якія ў сапраўднасьці скіроўваюцца ня толькі супроць дзяржавы, але перадусім супроць нас самых.

Вось, у агульных абрысах усё тое, чаго мы хочам і што будзем асягаць. Верым у жыцьцяздольнасьць і працаздольнасьць народу, а гэта нам гаворыць, што нашы імкненьні не астануцца бяз рэха. Ведаем і тое, што наш шлях цяжкі, бо вымагае адвагі, чэснасьці і мазалёў! Аднак, у меру магчымасьцяў, будзем наш народ да гэтага навaрачываць. Калі-б, аднак, нам і не хапіла магчымасьцяў давесьці справу да пераможнага канца, то аднак і тады нашы паклічы будуць жыць, бо іх радзіла само жыцьцё. Урэшце, нашы паклічы стануцца гістарычным пратэстам беларускае нацыяналістычнае думкі супроць засьлепленай работы нашых „павадыроў".



## ЗАКЛІК
### Беларускае Нацыяналістычнае Сябрыны.

Беларуская Нацыяналістычная Сябрына, у склад каторай уваходзяць сябры Беларускае Нацыяналістычнае Групы Студ. У. С. Б у Вільні і часьціна старэйшага грамадзянства — прыступае да выданьня свайго органу. Справа гэная не зьяўляецца пры сучасных варунках даволі лёгкай. Перадусім, балюча адчуваецца недахоп матэрыяльных сродкаў, чым значна ўтрудняецца гэная дзейнасьць Сябрыны. На падмогу нічыю ня можам і ня хочам спадзявацца, бо гэта сказіла-бы самастойніцкую беларускую ідэолёгію нашае часопісі. Пры помачы дабравольных складак сяброў Б. Н. С. ёсьць магчымым у найлепшым выпадку выданьне толькі некалькіх нумароў нашае часопісі. Б. Н. С. імкнецца аднак выданьне сваей часопісі наладзіць сталым, бо гэтага вымагае дабро беларускае незалежніцкае справы. Беларускае грамадзянства гэныя імкненьні Б. Н. С. павінна шчыра падтрымаць. Крыху зразуменьня павагі надыходзячых часоў і, з другога боку, крыху ахвярнасьці, і Б. Н. С. зможа выдаваць стала свой незалежны орган. Гэта дасьць нам магчымасьць незалежнага беларускага падыходу да ўсіх тых спраў, якія дагэтуль інтэрпрэтаваліся незаўсёды згодна з вымогамі беларускага адраджэнскага руху.

З другога боку, беларускае грамадзянства павінна прыступіць да дзейнага супрацоўніцтва з нашай часопісьсю, гуртуючыся каля яе або ўваходзячы ў рады Б. Н. С., працуючы над паглыбленьнем нашае ідэолёгіі самой у сабе і ў народзе. На старонках нашае часопісі будзе ветліва бачаны кожны артыкул, кожная праца, якія да спраў беларускіх будуць падыходзіць з пункту гледжаньня культурнага ўзросту і дабра беларускае нацыі.

Урэшце, грамадзянства павінна дапамагчы нам у распашырэньні нашае часопісі, у павялічываньні ёй сталых падпісчыкаў, у паглыбленьні ў народзе сьведамасьці, што толькі незалежная беларуская прэса можа ўзгадаваць кадры высока-сьведамых творчых працаўнікоў на ніве нашай культуры і адраджэньня, і што таму выпісываньне і падтрымоўваньне гэткае прэсы зьяўляецца для кожнага беларуса канечным грамадзкім абавязкам.

Падаючы аб усім гэтым да ведама нашага грамадзянства, заклікаем яго падтрымаць нашы імкненьні і намаганьні. Падтрыманьне гэтага ўжо будзе першым крокам позытыўнае працы, больш вартаснае ад дэмагогічнае міжпартыйнае грызьні, зводзячае нашую нацыянальную справу на бездарожжы.

*Беларуская Нацыяналістычная Сябрына.*

Вільня, дн. 26. I. 34 г.

## Агэнты Масквы ўзрываюць ТБШ.

Адна з найстарэйшых беларускіх установаў у межах Зах. Беларусі, а найменна Т-ва Беларускае Школы, стаіць пад пагрозай узрыву. Чырвонамаскоўскія агэнты, ня могучы падпарадкаваць гэнае Т-ва сваім загадам, імкнуцца ўсялякімі спосабамі зьліквідаваць яго. З гэнай мэтаю розныя карповічы поруч з КПЗБ уносяць у рады сяброў Т-ва закалот і непаразуменьні, правакуючы сялянства на палітычныя выступленьні і зрыў з Галоўнай Управай Т-ва, баронячай яго культурнае назначэньне.

Беларускі народ павінен даць рашучы адпор чырвонамаскоўскім агэнтам, не дапускаючы іх да ліквідацыі Т-ва Бел. Школы.

## Латвія ўспамагае беларусаў.

Нядаўна зацьверджаная Торэнзбэргская беларуская школа Т-ва Бел. Вучыцялёў у Латвіі, атрымала ад Мястовай Управы м. Рыгі 4450 латаў дапамогі. Вядуцца перагаворы, каб гэную школу ўзяць на поўнае ўтрыманьне места Рыгі. З дзяржаўнага фонду школа гэная атрымала таксама дапамогу.

Рыжскі самаўрад, апроч таго прызнаў дапамогі для 1-шай і 2-гой рыжскіх беларускіх асноўных школаў. Адначасна выдаюцца для бедных дзяцей некаторых беларускіх школаў у Рызе гарачыя сьнеданьні, у ліку 195 порцыяў.

## Арышты беларусаў у Менску.

Пасьля ведамых арыштаў Дварчаніна, Рака-Міхайлоўскага, Гаўрыліка, Валошына, Мятлы, Бурсэвіча і Капуцкага, абвінавачаных у імкненьні адарваньня Б. С. С. Р. ад Маскоўшчыны, адбыўся цэлы рад яшчэ новых арыштаў. Прозьвішчы гэных арыштаваных савецкая прэса не падае, абмяжоўваючыся толькі да агульных заўваг, што «была ўскрыта і разгромлена новая контррэвалюцыйная арганізацыя», якою кіраваў нейкі «Беларуск. Нацыянальны Цэнтр».

# Выраўняць лінію нацыянальнае работы актывізмам!

Бурныя часы расейскай рэвалюцыі глыбака скалыхнулі і народам беларускім. Зразумеў ён у гэтую хвіліну, што надыйшлі часы, калі трэба прыступіць да закладаньня зрубаў сваей незалежнасьці. I народ беларускі з нябывалым энтузыязмам і ахвярнасьцю прыступіў да гэнае працы. Уздымаюцца незалежніцкія поклічы ўсебеларускіх зьездаў, прыходзіць акт 25 сакавіка і, урэшце, паўстаньне Случчыны. Аднак, гэны народны ўздым канчаецца фіяскам. Спрычыніліся да гэтага перадусім самі „павадыры“ нашага вызвольнага руху. У час, калі трэба было ўжо ўзяць ім ў рукі стрэльбы і стаць на чале народу, каб згінуць або перамагчы, яны тварылі „міністэрскія габінэты“, заняліся партыйным доктрынэрствам, білі пачародна паклоны Захаду і Ўсходу, ня веручы ў свае сілы, баючыся ахвярнасьці і сьмерці. Сваімі амбіцыямі і эгоізмам, мелкасьцю сваіх маленькіх ды брудненькіх душачак, яны гэны народны здзьвіг узарвалі і зьнішчылі, а самі разьляцеліся па ўсяму сьвету, усюды прыапранываючыся ў намiткі нацыянальных гэрояў — „павадыроў“. Шмат гэных „павадыроў“ знайшлося і ў межах Зах. Беларусі. Прыглядаючыся да іх бліжэй, мы пабачым, што гэта або быўшыя „русские патриоты“, або зьялавелыя нігілісты „русской школы“, або ўрэшце людзі тыпу „лаві мамэнт“ і толькі некаторыя з іх сапраўды ўжо мелі за сабой пэўны беларускі стаж, аднак таксама ўжо значна абязвартасьціўшы яго тупым і няплодным доктрынэрствам. I вось гэныя „павадыры“ былі прымушаны прыступіць да працы ў варунках зусім новых.

Абставіны працы ў гэты час былі надзвычай памыснымі і ўдзячнымі, бо ўзьняты расейскай рэвалюцыяй беларускі народны актывізм яшчэ было ня прыгас і толькі трэба было яго адпаведна накіраваць на творчую работу, на яго ўласнае, арганічнае замацаваньне. I тут вось распачынаецца ўся трагэдыя беларускага жыцьця ў Зах. Беларусі.

Здэмаралізаваныя рэвалюцыйнымі завірухамі, упоеныя бразгам аружжа, выкрыкамі бунтарскай дэмагогіі і разам з тым зьняверанныя ў свае сілы і магчымасьці, будучы ўсьцяж яшчэ пад уражаньнем нядаўных „міністэрскіх“ партфэляў і гонараў, „дыплёматычных банкетаў“ і г. д., нашыя „павадыры“ сталі неўспадзеўкі перад фактам шэрай, будзённа-мазолістай, ціхай і праграмова - паступовай працы над разбудовай беларускае культуры, кадраў інтэлігэнцыі, над паглыбленьнем нацыянальнае сьведамасьці і актывізму. Словам, калі ўжо ў новых гістарычных абставінах ня было магчымасьці бязкарна падбухторваць масы на рэвалюцыйныя выступленьні, раскашавацца маланкава-хутка выклíканымі эфэктамі, калі ўжо масы трэба і можна было пацягнуць за сабой толькі чэснай, творча-позытыўнай працай над закладаньнем зрубаў самастойнасьці, нашы „павадыры“ заламаліся, пачуліся няздольнымі і бязраднымі. I з таго мамэнту і распачынаецца іх забойчая „палітыка“.

Адны „лявеюць“, апіраюцца на Маскву і яе чырвонцы, выкарыстоўваюць кожную магчымасьць, каб даказаць чырвонасьць Зах. Беларусі, даходзяць папросту да таго, што запрадаюць сябе, моладзь і масы на найбольш няслаўную работу нацыянальнага самазарэчаньня, падаптаньня нацыянальнай годнасьці і амбіцыі. Кідаюць сотні ахвяр у вастрогі, калечачы маладыя душы, дэзор‘ентуюць і дэмаралізуюць народныя масы, разьбіваюць кожную ім не падпарадкаваную нацыянальную працу і арганізацыю, нічога позытыўнага не даючы.

Іншыя ў свой чарод, поклічы рэвалюцыі замяняюць на поклічы ашуканчага максымалізму і безпраграмовай ды бязмэтнай апазыцыі для апазыцыі. Побач з гэтым разгортываюць доктрынэрства, партыйную грызьню, з пенай на вуснах бароняцы сваю „непарочную“ і адзіна-выключную беласьць душаў, супрэмацыю ў вызваленчым руху, у кожнага з іншым поглядам даглядаючыся дэфэнзывы. Сваю чэснасьць у падыходах да працы забіваюць засьлепленай нэгацыяй рэальнага жыцьця, забіваюць сваёй вузкасьцю пазіраньня на справу незалежнасьці.

Урэшце, ізноў іншыя, ужо перад тым здэмаралізаваныя рознымі нігілізмамі ды эсэраўшчынай, гэнымі прыёмамі нічога-нярабленьня, пачынаюць „правець“, прыапранываюцца з вялікім трагізмам у намiткі Валенродаў, творачь на паперах установы і арганізацыі, падкупліваюць людзкую бяду або подласьць і на падставе гэтага вырабляюць адпаведныя „настроі“, „галасы“ і „імкненьні“ народу, а ў сапраўднасьці пад увесь гэны шумок найцынічней у сьвеце прагавіта зьвялічываюць сабе капіталікі, дэмаралізуюць перакупствам масы, паніжаюць сваім ашуканствам і нажывай імя беларускае.

Адначасна з усім гэтым, нашы „павадыры“ ўзаемна абліваюцца лаянкамі, адзін аднаго дыскрэдытуюць у вачох масаў, барацьбу за жыцьцё беларускае нацыі зводзяць да барацьбы за манаполь на „вседержавное“ і неабмыльнае „патрыяршаства“. Адзін перад адным стараюцца заімпанаваць масам сваім максымалізмам і радыкалізмам, адзін за другім на выперадкі навязываюць „высокапалітычныя“ кантакты, каб Польшчу падстрашыць Масквой, Літву і Львоў — Польшчай, Польшчу — Бэрлінам і гэтак навокал, чым ня толькі нічога позытыўнага не асягаюць, але самі-ж накідаюць на беларускі вызвольны рух кляймо замежнае інтрыгі.

Праз усю гэну палітыку чырвонаю ніткай прайходзіць нявера ў свае ўласныя сілы, што, зразумела, адпаведна адбіваецца на масах.

I вось, прыходзіцца сьцьвердзіць, што вынікі ўсяе гэтае палітыкі папросту жудасна трагічныя.

За 15 гадоў сваей дзейнасьці нашыя „павадыры“ ня толькі нічога позытыўнага не зрабілі, але даслоўна зьнішчылі ўсё тое, што было ўжо здабыў народны актывізм. За гэты час ня толькі не ўзьнялі прэстыж беларускага імя і яго культуры, але да немагчымасьці абніжылі яго, змушаючы чужынцаў заглядацца на беларускі вызвольны рух, як на нейкую інтрыгу. Народны актывізм зьнішчылі, народныя масы здэмаралізавалі і зьняверылі ў праўду беларускіх ідэалаў.

Частка здарова-чэснага бел. грамадзянства, здольная да творчае работы, але ня могучая працаваць у гэнай атмосфэры, адыйшла на старану, ухілілася ад усялякае работы.

З сьлядамі калецтва пайшло ў жыцьцё і маладое беларускае пакаленьне, узросшае ў гэнай дрыгвяністай атмосфэры. Шукаючы шляхоў выяўленьня сваіх маладых парываў, яно трапляе ў вадаварот „павадырскае“ спэкуляцыі, у засьценкі захрыпшага максымалізму і гістэрыі, у падзямельлі чырвонамаскоўскае анархіі. Урэшце, трапіўшы там, правакуецца зьменай кірункаў сваіх „павадыроў“, дэмаралізуецца крыкамі і нічоганяробленьнем, пляміцца гандлем сваіх прозьвішч і нарэшце свой шлях закончывае ў вастрогах, або недавукамі на ральлі.

I гэная моладзь пайшла ў сьвет ненавідзячы яго і людзей, ня веручы ў свае сілы, ня здольная да позытыўнае працы, адарваная ад народу і часта зарокшаяся сваей беларускасьці, зачыніўшыся шчыльна ў неграмадзкім жыцьці свайго я і здагоне хлеба.

Ня менш на гэтым пацярпела і беларуская вёска—народныя гушчы. Здэмаралізаваныя поклічамі максымалізму або грашовай купляй, зьнеахвочаныя да творчай працы выбарчымі і газэтнымі ашуканствамі, правакаваныя і заганяныя ў вастрогі, зьняверанныя ў свае сілы і перамогу беларускае праўды, гэныя масы былі кінуты на жор фэрмэнтацыі і падзямельля чырвонамаскоўскіх КПЗБ. Вытвараны на гэтым грунце псыхоз нэгацыі ўсялякае нацыянальнае працы і агульнае зьнеахвочаньне —паглыбляе трагэдыю нашае вёскі дарэшты.

Падлічваючы ўсё вышэй сказанае прыходзіцца сьцьвердзіць, што нашыя „павадыры“ справу беларускага адраджэнскага руху загналі ў „тупік“.

Інтэлігэнцыя, моладзь і масы адыходзяць ад гэтага руху, ня маючы магчымасьці прылажыць свае сілы да працы позытыўнай.

Уся гэная безпраграмовая і нячэсная „палітыка“ выклікала, зразумела, і завостраньне адносінаў да беларускае працы з боку дзяржаўнага. Бо хоць нашы „павадыры“ ўсяляк імкнуцца давесьці дэнацыяналізацыйную палітыку дзяржавы ў адносінах да беларусаў, гэныя «павадыры» ніяк ня могуць зразумець, што фактычна за гэнае завостраньне адносінаў да нас і нашае працы, адказваюць перадусім яны самі, а праз іх і мы. Дзяржава, як кожная дзяржава, можа лічыцца і будзе лічыцца з працай позытыўнай, з чэснасьцю і годнасьцю сваіх грамадзян, з іх сьведамасьцю і актывізмам, але ніколі з дэмагогіяй і доктрынэрствам, а тым больш з сеяньнем анархіі, з подласьцю і ашуканствам. Урэшце, дзяржава можа нас ненавідзець, але заўсёды будзе змушана ўшанаваць стойкасьць у працы і нацыянальную годнасьць, якія аднак не раўназначны з уводжаньнем у дзяржаву замежнае інгэрэнцыі. Словам, ізноў-жа нашы „павадыры“ спрычыніліся да таго, што дзяржава не змагла азначыць да нас сваей сталай праграмы. Побач з усім вышэйгавораным, гэта таксама зьяўляецца аднэй з галоўных перашкод у позытыўнай рабоце над разбудовай нашае культуры і актывізму. Перашкоды гэныя павінны быць неадкладна зьнішчаны.

Мы мусім прыступіць да сьмелае і грунтоўнае чысткі. З радоў працаўнікоў вызвольнага руху трэба выжануць „павадыроў“, апаганіўшых імя беларускае і сябе непрацаздольнасьцю, ашуканствам і нажывай, палітычным акробатызмам і шкодніцтвам адраджэнскаму руху. Людзі гэныя грунтоўна даказалі, што нічога здольнага да жыцьця стварыць не патрапяць, што толькі і надалей будуць дэмаралізаваць масы і маладое пакаленьне, правакацыйна завострываць адносіны між намі і дзяржавай, каб на гэтым будаваць сваю «палітыку» «павадырства» і нажывы.

З другога боку ідучыя ў жыцьцё з налічам чэснасьці, аднак шляхамі бязплоднага максымалізму і прынцыповай апазыцыі, павінны пераглядзіць гэныя шляхі, накіраваць іх на працу позытыўную і конструктыўную, павінны самі ператварыцца ў сапраўдны актыў нацыі, каб ва ўдарніцкім тэмпе мы змаглі запыніць рэгрэс і застой беларускае працы.

Выказаўшы сваю жыцьцяздольнасьць і працаздольнасьць, паглыбіўшы годнасьць і актывізм нацыі, накіраваўшы народныя гушчы на творчую працу, вылегітымаваўшыся неўхільным поступам свайго жыцьця, мы змусім дзяржаву перагледзіць свае адносіны да нас, мы зможам зусім рэальна ўзносіць хорам беларускае волі.

## „Беларускі Цэнтр“ у Англіі.

У мэтах рэклямы сваей „нацыянальнай“ палітыкі, чырвонамаскоўскія імпэрыялісты высылаюць на заграничныя ўнівэрсытэты па пары асоб і з сваіх нерасейскіх рэспублік. Выбіраюцца туды з радоў моладзі зразумела, толькі 100 прац. камуністы, якія атрымліваюць міністэрскія стыпэндыі і пяюць заграніцай тое, што загадае Масква.

Гэткім чынам трапіла ў Лёндан пяць студэнтаў і з межаў Б.С.С.Р. Ня гледзячы на тое, што былі гэта „выбранцы“, яны, аднак, ня могучы больш сьцярпець гвалтаў над народам беларускім у Б.С.С.Р., дэманстрацыйна зракліся савецкага грамадзянства і маскоўскіх пэнсыяў. У студні б. г. яны залажылі там „Беларускі Цэнтр“, у які адразу ўвайшло блізу дваццаць работнікаў, беларускіх эмігрантаў. У тым-жа месяцы быў наладжаны рад публічных лекцыяў, на якіх студэнты Яхім Зданька і Іван Каралюк выявілі ўвесь трагізм беларускага народу ў межах Б.С.С.Р. пад крывавымі гвалтамі маскоўскіх дзікуноў.

## Новая канстытуцыя.

26 студзеня б. г. быў прыняты польскім Соймам праект новае канстытуцыі. З нагоды гэтага па ўсёй Польшчы адбыліся маніфэстацыі. Падобная маніфэстацыя адбылася ў суботу 27 г. м. і ў Вільні.

## Рост беларускага актывізму.

Антымаскоўскія і антыкамуністычныя настроі што-раз шырэй разьліваюцца па ўсёй Савецкай Беларусі. Гэных настрояў ужо ня ў сіле запыніць масавыя арышты, наадварот, гэныя настроі толькі яшчэ больш узрастаюць. Маскоўскія палітыкі ўжо ня ведаюць, каго ў гэтым абвінавачываць. Старшыня беларускаго ЦІК-а Чэрвякоў на паседжаньні ўсесаюзнага ЦІК-а абвінавачываў у гэтым беларускіх сэпаратыстаў, закідаючы ім зносіны з Польшчай і Нямеччынай. Выступленьне Чэрвякова адзначалася гвалтоўнасьцяй і звычайнай лаянкай беларусаў. Ня гледзячы на гэта, аб‘яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б пастанаўляе, што „...нацдэмы ў сваёй падрыўной рабоце супроць партыі і савецкай улады скарыстоўвалі сыстэму права, апартуністычных і нацыянал-апартуністычных памылак тав. Чэрвякова...».

Той жа пленум у сваіх пастановах бязсільна пакрыківае, каб «...даць сакрушальны адпор усім спробам разрыву або аслабленьня сувязі Беларусі з Савецкім Саюзам, умацаваць гэту сувязь, выхоўваць... масы... супроць... унутранай нацыяналістычнай і ўсякай іншай контррэвалюцыі, а таксама ўсякіх нац.-апартуністычных ухілаў...», што, за нявыконываньне плянаў барацьбы з нацыяналізмам, трэба „...прыцягваць да найстражэйшай партыйнай і савецкай адказнасьці...“.

Ня гледзячы на ўсё гэта, масы народныя не перастаюць бур-

# Палітычныя весткі.

На Мальце дайшло да вострых забурэньняў між тубыльчым насельніцтвам і ангельскай уладаю. Мальтанская нацыянальная партыя, карыстаючаяся вялікім значэньнем і уплывамі ў народзе, асьведчыла, што Англія пасягае на правы мальтанцаў, зачыніла іх парлямэнт і інш... Мальтанцы трымаюцца моцна, заўсёды гатовы абараніць самабытнасьць сваей невялічкай бацькаўшчыны.

—·—

На савецкай Украіне і Каўказе ўжо каторы месяц вядуцца збажавыя рэквізыцыі. Камуністы забіраюць ад сялянства гэтак шмат збожжа, што даслоўна нічога не астаецца на хлеб і пасевы. У 1932 г. з Украіны было выдушана блізу 500 мільёнаў пудоў збожжа, а на Каўказе 160 мільёнаў пудоў. За 1933 г. камуністы спагналі ў два разы больш. Сяляне перад гэтымі грабежствамі сваё збожжа хавалі ў зямлю, аднак гэта мала дапамагло—голад зьнішчыў мільёны людзей. Зрабаванае збожжа камуністы прадаюць за поўцаны ў замежных краінах, зьвялічываючы гэтым крызыс. За атрыманыя грошы выклікаюць забурэньні ў суседніх дзяржавах, каб гэтыя не змаглі выступіць супроць Масквы. Словам, камуністы гэткім чынам ратуюць свае скуры.

—·—

У самым канцы мінулага году памёр нацыянальны павадыр і тварэц каталёнскае дзяржаўнасьці, Франсэско Масія.

Каталёнія ў 1714 г. была падпарадкавана гішпанцам і гэтак трывала звыш ста гадоў. У 1833 г. адзін з паэтаў сваім патрыятычным вершам абуджае Каталёнцаў да барацьбы за вызваленьне сваей бацькаўшчыны і да працы над разбудовай сваей нацыянальнай культуры. Каталёнцы з самага пачатку сваей барацьбы становяцца на грунт нацыянальны, гэта дало магчымасьць для Ф. Масіі ўжо ў 1931 г. абвесьціць у Барцэлёне незалежнасьць Каталёнскае Рэспублікі.

Ф. Масія быў пачаткова гішпанскім афіцэрам, але ўжо ад 1905 г. становіцца на чале вызвольнага каталёнскага руху, некалькі разоў бывае змушаны ўцякаць за межы бацькаўшчыны, аднак і адтуль кіруе працай свайго 4½ мільённага народу, і ўрэшце сваей упорыстай воляй і працай здабывае незалежнасьць свайму народу.

Характэрна адзначыць, што за ўвесь час сваей барацьбы Масія ніколі ня шукаў сабе замежных саюзьнікаў, але заўсёды верыў у свае ўласныя і свайго народу сілы.

—·—

У вадным з вялікіх гарадоў савецкай Украіны, паіменна ў Адэсе, дайшло нядаўна да вялікіх заварушэньняў, а гэта ў выніку агульнай нэндзы і голаду. Жыхары Адэсы разьбівалі дзяржаўныя спажывецкія склады, забіраючы адтуль розны спожыў. Камуністы пачалі страляць у галодных, забіваючы шмат асоб. Урэшце дайшло да таго, што нават часьціна войска перайшла на бок згаладнеўшых жыхароў і разам залажылі за горадам лагер. Аднак у хуткім часе паўстанцы былі вынішчаны артылерыйскім агнём. Як бачым, чырвоны „рай“ пачынае паманеньку „адраівацца“.

—·—

У зьвязку з мільённымі надужыцьцямі Ставіскага і заблутаньнем у гэту справу „высокапастаўленых“ радыкалаў, у Францыі ўвесь час адбываюцца вялікія забурэньні. Народ востра выступае супроць „зьлявелых“ мужоў дзяржавы, апаганіўшых сябе ў гэтай справе. Барацьба гэная вядзецца пад поклічам — „фронт францускай еднасьці“.

—·—

Нядаўна адбыліся выбары ў гішпанскія картэзы. Камуністы праз увесь час вялі шырокую прапаганду сярод народных масаў, імкнучыся гішпанскую народную рэспубліку пératварыць на камуністычную, каб, папросту кажучы, прынесьці сьмерць нацыі. Супроць гэных намаганьняў чырвонае Масквы, народ гішпанскі згуртаваўся на грунце нацыянальным, і камуністы прайгралі. Гэткім чынам нацыяналісты правялі ў парлямэнт 319 паслоў, у той час, як розныя, з пад знаку камунізму, радыкальныя сацыялісты толькі 4 паслоў (у папяр. мелі 55), „акцыі рэспубліканскія“—3 (раней 40), социялісты 56 (раней два разы гэтулькі). Відаць, народ гішпанскі ўжо пазнаўся на чырвоным раі і свабодзе!

—·—

Гэнэральны рэдактар аднае з галоўнае часопісі чэскае камуністычнае партыі, пазнаўшыся на яе дэструкцыйнай рабоце і ня хочучы быць болей прыслужнікам Масквы і ворагам свайго народу, пакінуў рэдактарства і выступіў з радоў партыі. У зьвязку з гэтым выявілася, што чэскае работніцтва страціла да Масквы ўсялякую пашану, убачыўшы прыкладна пустакрыклівасьць чырвоных павадыроў. Выявілася і тое, што Масква пакрывала ⁴/₅ усіх выдаткаў чэскіх камуністаў. Як бачым і з гэтага, брахнёй зьяўляюцца камуністычныя выкрыкі, што народныя масы самахоць горнуцца да камунізму. Папросту людзі купляюцца, бо апаганеная камуністамі ідэя нікога за сабой ня можа ўжо пацягнуць.

—·—

Ужо нешта год мінае, як народ кітайскі распачаў актыўнае аружнае змаганьне з камунізмам, які падзёр краіну на часьціны, зьнішчыў народную гаспадарку, выклікаў страшэнныя ў краі галадоўкі. На чале гэнага змаганьня стаіць ведамы гэнэрал Цянг-Кай-Шэк. Змаганьне гэнае з камуністычнай пошасьцю даволі цяжкое, бо супроць народу кітайскага ськіваваны ня толькі абдурманеныя і цёмныя масы пагранічных мясцовасьцяў, але і мільёны чырвонцаў, у значнай часьціне выпампаваныя з сялянства, у тым ліку і з Савецкае Беларусі. Аднак, народ кітайскі дзейна супрацьстаўляецца. У сьнежні мінулага году быў наладжаны „антыкамуністычны тыдзень“, у часе якога адбываліся вялічэзныя сходы, паходы, гаварыліся прамовы і г. д. Акцыя гэная ахапіла ня толькі гарады, але ў першую чаргу вёскі і мястэчкі, жыхары якіх зразумелі, што дабрабыт і свабоду можа даць толькі свая дзяржава, што за камунізмам ідуць людзі ня здольныя да працы, жадаючыя жыць толькі сваімі пустымі крыкамі.

—·—

Японія сьпешна гатуецца да барацьбы з Саветамі. Ваенныя настроі ў Кітаі растуць з кожным днём, ненавісьць да чырвоных тыранаў ахапляе штораз шырэйшыя гушчы народу. Міністр вайны выступіў у прэсе, дамагаючыся неадкладнага наступу на С.С.С.Р. Усе гэныя японскія настроі зьяўляюцца вынікам камуністычнае падзямельнае работы, якая ў кожнай дзяржаве імкнецца выклікаць нутраныя непаразуменьні, каб гэткім чынам хоць яшчэ адзін дзень змагчы пратрымацца ў чырвоных саветах, выдушываючы з народу апошнія сілы.

---

(Працяг з 3-яй стар.).

каньня помачы і падмогі за межамі нацыі. Яна сама мае ў сабе неспажытыя скарбы і сілы і на іх трэба абаперціся, бо толькі яны, мы самі сваімі сіламі, зможам прыдбаць сабе хорам незалежнасьці. Трэба толькі паглыбіць усебеларускі працоўны актыў, узмоцніць сілы незалежніцкага фронту і узьняць годнасьць нацыі!

# ХРОНІКА

**Гадавыя справаздачы БІГ і К.** Цэнтр. Урад Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры абвесьціў камунікат, у якім заклікае паасобныя гурткі Інстытуту прысылаць справаздачы з дзейнасьці за 1933 г. З ужо прысланых і апублікаваных некаторых справаздач відаць, што вядзецца там сапраўды праца позытыўная, адно толькі тэмп гэтай працы належала-бы больш пасіліць.

**Беларускі Музэй.** Як ведама, у Вільні знаходзіцца надзвычай багаты сваімі экспонатамі Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча. За апошнія два гады гэны музэй зьведала блізу 2.000 асоб, у тым 48 экскурсіяў. Дзеля ўтрыманьня музэю ў належным стане дзяржава выдае сталую дапамогу. Шкада толькі тое, што кіраўніцтва музэю гэтую дапамогу скіроўвае на ўтрыманьне нейкага безработнага маскаля.

**„Завешаньне“ Ўправы ТБШ у Беластоку.** Ня могучы падпарадкаваць сабе ўсёцэла ТБШ, чырвонамаскоўскія агэнты пачалі гэную ўстанову правакаваць і ўрэшце змусілі адміністрацыйныя ўлады да „завешаньня“ Акружной Управы ТБШ у Беластоку.

**Заклік беларускіх вучыцялёў.** Прэзыдыюм Беларускага Прафэсыянальнага Вучыцельскага Саюзу абвесьціў адозву, у якой заклікае ўсіх сьведамых беларусаў дапамагчы матэрыяльна незаможным вучням беларускае гімназіі. Ахвяры трэба слаць на імя віцэ-старшыні Саюзу др. Б. Грабінскага (Wilno, Mickiewicza 1).

**Лекцыі Т-ва Беларусаведы.** 21. I. 34. адбылася ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віл. Унівэрсытэце навуковая зборка, на якой др. Я. Станкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „Рэформа беларускага правапісу ў Менску“. 28. I. 34 г. гэнае-ж Т-ва зладзіла чародную зборку, на якой др. Я. Станкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „Барацьба беларусаў у Б.С.С.Р. з рэформай правапісу“.

Пасьля лекцыяў адбываліся дыскусіі, падчас каторых абсалютная большасьць забіраўшых голас згадзілася з прэлегэнтам, сьцьвярджаючы палітычны характар гэнае рэформы бел. правапісу.

Лекцыі адбываліся пры перапоўненай салі.

**Зьезд ТБШ.** У хуткім часе адбудзецца агульны зьезд прадстаўнікоў ТБШ. У гэтым кірунку вядуцца ўжо прыгатаваўчыя працы. Фактычна, вядзецца падгатоўка панамі карповічамі і КПЗБ, каб на гэтым зьезьдзе ТБШ ўзарваць.

**Лекцыя Т-ва Беларусаведы.** 4. II. 34 г. Т-ва Беларусаведы ладзіць чародную зборку, на якой абс. М. Пяцюкевіч прачытае рэфэрат на тэму: „Беларуская этнографія за 15 гадоў (1919-1934)“. Зборка адбудзецца ў галоўным будынку Унівэрсытэту, а гадз. 5. п. пд.

**„Літэратурная старонка“.** Пад гэткім назовам пачаў выходзіць у Вільні „Месячнік літэратуры, мастацтва і крытыкі“. З вонкава-тэхнічнага боку месячнік выглядае добра. Пад поглядам зьместу месячнік гэты слабы. І гэтаму дзівіцца ня прыходзіцца, бо хоць афіцыяльным рэдактарам лічыцца Я. Патаповіч, то ўсапраўды ад гэтага месячніка смурод чырвонамаскоўскага лякайства нясецца на вярсту. Мэта яго выдаваньня зразумелая—абяліць перад беларускім грамадзянствам Зах. Беларусі крывавыя гвалты над сялянствам і работнікамі Б.С.С.Р.

**Канцэрт-Баль.** 10. II. 34 г. у памешканьні літоўскай гімназіі ў Вільні адбудзецца пяты традыцыйны канцэрт-баль трох студэнскіх саюзаў: беларускага, літоўскага і ўкраінскага. Даход прызначаны для незаможных студэнтаў на аплату за навуку.

# Ведай, што:

— Падчас раскопак на Бэкешавай гары ў Вільні, былі знойдзены рэшткі розных прыладаў людзкага жыцьця, паходзячыя з пачатку XIII стагодзьдзя. Як пасьля высьнілася, жыло на гэтым мейсцы нейкае беларускае племя, аб чым сьведчаць формы і характар знойдзенага пры гэтых раскопках. Цікава і тое, што ведамы літоўскі гісторык К. Буга ў 1934 г. даказаў жыцьцё беларускіх плямёнаў у ваколіцах Вільні ўжо ў VI-VIII веку.

— Італія зараз пасьля сусьветнае вайны была ўжо на парозе развалу свайго дзяржаўнага жыцьця і суседнія дзяржавы ўжо рыхтаваліся падзерці яе на часьці і падзяліць між сабой. У краі панавалі бяда і непарадкі, якія зьвялічывалі ўсьцяж агэнты Масквы. У вапошняю хвіліну народ італьянскі ўбачыў, што яму пагражае, таму магутна скалыхнуўся і строс сваё нічога - няробленьне. На чале Італіі становіцца нацыяналіст і народны павадыр Мусоліні, разганяе чырвона-маскоўскіх агэнтаў, народ свой накіроўвае на шлях упорыстай творчай працы і мы бачым, што Італія сяньня адна з наймагутнейшых краін у сьвеце, сьхінаюцца перад ёй тыя, хто яшчэ нядаўна намагаўся яе парваць на часьці, пануе цяпер у Італіі лад і дабрабыт, народ бадай і ня знае што такое крызыс, усім хапае хлеба і працы. Вера ў свае сілы і праца адратавалі Італію.

— Яшчэ некалькі гадоў назад Нямеччына папросту душылася ў ціскох крызысу і нутраных непарадкаў. Але вось як толькі дайшоў да ўлады Гітлер, які паразганяў або пааперастрэліваў чырвонамаскоўскіх крыкуноў ды віхрыцеляў, народ свой паставіў на шлях творчае працы, абапіраючыся выключна на энэргію нацыі,— у Нямеччыне пачало адразу зьмяншацца безрабоцьце, спыніліся голад і непарадкі. Калі прыйшлося галасаваць, ці згаджаецца народ на палітыку Гітлера, то на яго старане выказалася больш 90 прац. усяе нацыі. Гэткім чынам аказалася, што нават самі нямецкія „камуністы“ згадзіліся з позытыўнай работай Гітлера.

— Паводле апошняга перапісу насельніцтва, у Вільні ўсяго толькі 1413 літвіноў, гэта значыць блізу на 150 асоб менш, чым беларусаў. Усапраўды ў Вільні будзе беларусаў больш чым літвінаў, у шмат-шмат разоў болей! І гэта ня гледзячы на тое, што літвіны ўкладаюць сотні тысяч залатовак, каб толькі неяк прыдаць Вільні «літоўскі» характар. Відаць, штучнае літоўшчаньне беларускіх зямель і шмат каштуе і да нічога добрага давесьці ня можа.

— Беларускае грамадзянства ў Латвіі, працуючы чэсна на ніве беларускага адраджэньня, а гэта стаўшы на шлях працы творчай, мае сяньня: Беларускага прадстаўніка пры Міністэрстве Асьветы, Беларускія Вучыцельскія Курсы ў Рызе, дзьве беларускіх гімназіі, 22 беларускіх школы і два дзіцячыя садкі. Беларусаў у Латвіі ёсьць у шмат разоў менш, чым у Зах. Беларусі, аднак ня гледзячы на гэта, там беларуская работа пасутпае шпарка наперад, чырвонамаскоўскія агэнты там ня маюць нідзе доступу і значэньня, бо ім папросту ніхто ня верыць.

— На пабудове Балтыцка-Беламорскага каналу (у СССР) згінула 140.000 людзей. Між німі былі тысячы беларускіх сялян і работнікаў.

---

Рэдактар-Выдавец **С. Сарока**.

Друк. Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.